# 23-га ЛЮТАГА ДЗЕНЬ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ І ВАЕННА-МАРСКОГА ФЛОТА



## АБАРОНА ЦАРЫЦЫНА

1918 год быў для совецкай краіны вельмі цяжкім. Ворагі напалі на нас адразу з усіх бакоў, пачалі цясніць нашу армію. Сібір, Урал, Украіна перайшлі ўжо ў рукі белых. З дня на дзень трэба было чакаць удара па Царыцыну.

Праз Царыцын ішоў тады хлеб з поўдня нашай краіны на поўнач. Калі-б гэты шлях быў перарэзан,—і Масква і Ленінград засталіся-б без хлеба, жыхары іх былі-б прымушаны галадаць.

Белыя гэта ведалі. Таму яны і рушылі на Царыцын свае лепшыя, адборныя войскі.

Усё бліжэй і бліжэй падыходзілі белыя да Царыцына. Здавалася, надзеі няма: Царыцына нам не абараніць.

І вось тады Ленін паслаў у Царыцын таго, каму ён давяраў больш за ўсіх: Сталіна.

Сталін прыбыў у Царыцын. Адразу-ж убачыў ён, што горад зусім не падрыхтован да абароны, усюды—беспарадак і неразбярыха. У штабе сядзелі падабраныя здраднікам Троцкім белыя афіцэры. Сярод іх было многа здраднікаў і шпіёнаў. Яны рыхтавалі патаемна змову супроць совецкай улады, мелі намер здаць горад ворагу.

Сталін жалезнай рукой навёў парадак у Царыцыне, ачысціў горад ад шпіёнаў і здраднікаў. Ён разаблачыў і арыштаваў змоўшчыкаў. Ён растлумачыў рабочым, чаму трэба абараняць Царыцын да апошняй кроплі крыві. Ён шпарка стварыў новыя дывізіі Чырвонай арміі, сярод іх комуністычную дывізію, якая складалася выключна з рабочых.

Потым Сталін разам з Варашылавым накіраваўся на фронт, пабываў у самых небяспечных месцах.

„Гэта былі дні найвялікшага напружання,—успамінаў пазней таварыш Варашылаў.—Трэба было бачыць таварыша Сталіна ў гэты час. Як заўсёды, спакойны, углыблёны ў свае думкі, ён літаральна цэлымі суткамі не спаў, размяркоўваючы сваю інтэнсіўнейшую работу між баявымі пазіцыямі і штабамі арміі...“

„...У нас не было шляхоў адступлення. Але Сталін аб іх і не клапаціўся. Ён быў прасякнуты адным сазнаннем, адной думкай—перамагчы, разбіць ворага што-б там не было. І гэта непахісная воля Сталіна перадавалася ўсім яго бліжэйшым саратнікам, і, не гледзячы на амаль безнадзейнае становішча, ніхто не сумняваўся ў перамозе.

І мы перамаглі. Разгромлены вораг быў адкінут далёка к Дону“.

Многа год прайшло з таго часу. Але ўспаміны аб гэтых цяжкіх і слаўных баях не памруць ніколі. У памяць аб іх, у чэсць таго, хто адстаяў Царыцын, гораду далі новае імя—Сталінград.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Люты 1940 г. № 2

А. І. Ульянава

# ДЗІЦЯЧЫЯ І ШКОЛЬНЫЯ ГОДЫ ІЛЬІЧА

*(Працяг)*

## Раздзел пяты

Вяртаючыся з гімназіі, Валодзя расказваў бацьку аб тым, што было на ўроках, пра што ў яго запытвалі і як ён адказваў. Паколькі звычайна паўтаралася адно і тое самае,—удалыя адказы, добрыя адзнакі,—то часам Валодзя проста, хутка ідучы міма габінета бацькі па праходнаму пакою, праз які ішла яго дарога да сябе, наверх, скорагаворкай на хаду рапартаваў: «Па грэчаскай пяць, па нямецкай пяць». Так ясна ў мяне перад вачамі гэтая сцэна: я знаходжуся таксама ў габінеце бацькі і лаўлю задаволеную ўсмешку, якою абменьваюцца бацька з маці, сочачы вачамі за каранастай постаццю ў гімназічным шынелі, з тырчачымі з-пад форменай шапкі рыжаватымі валасамі, жвава мільгаючай каля дзвярэй. Прадметы, вядома, мяняліся; іншы раз гучэла: «Па латыні пяць, па алгебры пяць», але сутнасць была адна, атрымлівалася звычайна адна адзнака—5.

Бацька ў тыя годы гаварыў маці, што Валодзю ўсё вельмі лёгка даецца і ён баіцца, што ў ім не выпрацуецца працаздольнасць. Мы ведаем цяпер, што апасенні гэтыя былі лішнімі, што Валодзя здолеў выпрацаваць у сабе незвычайную працаздольнасць.

Але і падражніць і пасмяяцца ён любіў. Калі збіраліся яго равеснікі ці ў сям'і з меншымі (Оляй і Міцем), ён быў канаводам усіх гульняў.

Некаторыя свавольствы Валодзі засталіся ў мяне ў памяці. Так, прыехала да нас стрыечная сястра, жанчына-ўрач. У той час жанчыны-ўрачы былі рэдкасцю. Гэта стрыечная сястра была адной з першых. Сядзіць яна ў зале і гутарыць з бацькам і маці. Ля дзвярэй у залу смех, шушуканне. Убягае Валодзя і бойка звяртаецца да госці:

— Анюта, я хворы—палячы мяне.

— Чым-жа ты хворы?—ласкава запытвае малады ўрач, бачачы, што хлопчык жартуе.

— Ніяк не магу дасыта наесціся: колькі не ем, усё галодны.

— Ну, ідзі ў кухню, адрэж лусту аржанога хлеба на ўсю булку, пасалі добра і з'еш.



В. І. Ленін на студэнцкай сходцы ў Казанскім універсітэце. Снежань 1887 г.

— Я ўжо спрабаваў,—не памагае.

— Ну, дык паўтары гэта лякарства, тады напэўна паможа.

Валодзю застаецца толькі рэтыравацца.

Любіў Валодзя і музыку. Мама паказала яму пачатковыя практыкаванні, дала яму разыграць некалькі просценькіх дзіцячых песень і п'есак, і ён пачаў іграць вельмі бойка і з выразжэннем. Маці шкадавала потым, што ён закінуў музыку, да якой праяўляў вялікія здольнасці.

Любіў маленькі Валодзя лавіць птушак, ставіў з таварышамі на іх лавушкі, а яшчэ раней любіў купляць іх, каб потым выпускаць іх на волю.

Бегаў ён і рыбу лавіць вудачкамі на Свіягу, рэчку ў Сімбірску, і адзін яго таварыш расказвае аб наступным выпадку. Запрапанаваў ім хтосьці з хлапцоў лавіць рыбу ў вялікай, поўнай вады, канаве, паблізу, сказаўшы, што там добра ловяцца карасі. Яны пайшлі, але, схіліўшыся над

вадою, Валодзя зваліўся ў канаву; гразкае дно пачало зацягваць яго. «Не ведаю, што-б было,—расказвае гэты таварыш,—калі-б на нашы крыкі не прыбег рабочы з завода на беразе рэчкі і не выцягнуў Валодзю. Пасля гэтага не дазвалялі нам бегаць на Свіягу».

Валодзя-ж не любіў прыродазнаўчых навук. У гімназіі ён цікавіўся лацінскай



Казанскі універсітэт, у якім вучыўся В. І. Ленін у 1887 г.

мовай, чытаннем класікаў, гісторыяй, геаграфіяй, любіў пісаць пісьмовыя работы і пісаў іх вельмі добра.

Ён не абмяжоўваўся падручнікамі і расказамі настаўніка, каб напісаць сачыненне, а браў кнігі з бібліятэкі, і сачыненні яго атрымліваліся заўсёды грунтоўнымі, тэма была вельмі добра распрацавана і напісана была добрай літаратурнай мовай.

У вольны час, зімовыя або летнія канікулы, ён ці чытаў, прычым любіў, памятаю, лузаць сланечныя семячкі, ці бегаў, гуляў, катаўся на каньках узімку, гуляў у кракет ці купаўся ўлетку. Ён не любіў чытаць аб прыгодах, а захапляўся, памятаю Гогалем, а пазней Тургеневым, якога мог чытаць і перачытваць па некалькі разоў. Таварышоў, асабліва блізкіх, як у Сашы ці Олі, у гімназічныя годы ў Валодзі не было, да нас у сям'ю мала хто прыходзіў, але адносіны ў класе ў яго былі добрыя: ён дапамагаў у рабоце, тлумачыў незразумелае, папраўляў пераклады ці сачыненні, іншы раз і сам пісаў іх таварышам, якім гэта было цяжка. Ён тлумачыў таварышам незразумелае ў час перапынкаў, прыходзіў, як і брат яго Саша, іншы раз у гімназію на паўгадзіны раней, каб перакласці ім цяжкое месца з грэчаскай ці лацінскай моў або растлумачыць складаную тэарэму. Увесь клас спадзяваўся на Валодзю; ідучы ўперадзе, ён і другіх вывозіў.

### Раздзел шосты

Першыя годы жыцця ў Сімбірску сям'я наша вандравала па розных больш ці менш невыгодных кватэрах, пакуль нарэшце, бацька не купіў свой драўляны дом на Маскоўскай вуліцы. Цяпер у гэтым доме арганізован музей імя Леніна.

За домам быў даўгі зялёны двор, на якім былі пабудаваны для нас гіганцкія шагі, потым даволі вялікі садок, які выходзіў ужо на другую—Пакроўскую—вуліцу.

Цяпер садок гэты большай часткаю высечаны, а на Пакроўскую вуліцу выходзіць ужо другі, каменны дом[1]).

Такім чынам, вузкае і доўгае месца цягнулася на цэлы квартал. У плоце саду была фортка, і мы выходзілі праз сад—узімку на каток, ўлетку да купальні на рацэ Свіядзе. Мы плацілі за дзве гадзіны—ранішнюю і вячэрнюю—у адной прыватнай купальні, і ў гэты час трэба было пакупацца двум зменам: бацьку з хлопчыкамі і маці з дзяўчатамі. Памятаю, як дзве часткі сям'і сустракаліся дзе-небудзь на поўдарозе—на ціхім, пораслым высокаю травою, схіле Пакроўскай вуліцы да Свіягі.

Садок быў пераважна фруктовы: у ім былі яблыні, вішні і ягадныя кусты розных відаў. Быў таксама прыгожы кветнік. Усім гэтым загадвала маці, якая вельмі любіла садоўніцтва. Рабочых рук, апрача наймаемых іншы раз для абкопкі яблыняў і да таго падобных цяжкіх веснавых ці асенніх работ, не было. Мы ўсе памагалі. Памятаю летнія вечары пасля сухіх і гарачых дзён, калі ўсе мы з лейкамі, з вёдрамі, з збанамі, з усякай пасудай, куды можна было набраць вады, накачвалі ваду з студні і хадзілі ў сад да

---

1) У гэтым доме змяшчаецца цяпер чыгуначная школа ФЗС, якая з 1931 г. імянуецца школай ім. Ілы Нікалаевіча Ульянава, а вучні яе і піонеры, прымацаваныя да музея ім. Леніна, узяліся за работу па аднаўленню саду. (А. У.)

градак і зноў да студні. Памятаю, як хутка бег адтуль Валодзя з пустою лейкаю. Ласавалі мы колькі хацелі ягадамі ды фруктамі. Але гэта адбывалася не абы як, пэўная дысцыпліна была і тут. Так, нам дазвалялася, калі яблыкі паспявалі, падбіраць і есці так званыя «ападкі», г. зн. апаўшыя на зямлю, падточаныя чарвякамі яблыкі, але з дрэў мы не зрывалі. Потым быў пэўны парадак у тым, з якіх дрэў есці раней—сарты, якія хутка псаваліся, а якія збіраць на варэнне і на зіму.

І ў выніку мы елі ўволю ў асеннія месяцы і ў нас хапала на ўсю зіму.

Памятаю, як усе мы былі абураны адной госцяю-дзяўчынкай, якая паспрабавала паказаць нам сваё ўдальства тым, што з разгону адкусіла ад яблыка на дрэве і праімчалася далей. Нам было неўласціва і незразумела такое хуліганства. Таксама і з ягадамі: нам адводзіліся градкі клубнік ці ўчасткі малінніку, або вішнёвага лясочка, дзе мы маглі «пасвіцца», пакідаючы некранутымі часткі ягадніку, якія больш позна паспявалі ці былі вызначаны на варэнне.

Маці наша ўмела падтрымаць дысцыпліну, ніколі залішне не ўціскаючы нас, даваць нам волю ў той меры, каб яна ніколі не перавышала межаў і не шкодзіла волі іншых. Гэта мела вялікае значэнне ў выхаванні ўсіх нас.

Тая разумная дысцыпліна, беражлівасць, якую праяўляў Уладзімір Ільіч у сваім асабістым жыцці, якой ён патрабаваў ад усіх таварышоў у дзяржаўным будаўніцтве, гэта яго арганічная ўласцівасць яшчэ з дзяцінства.



В. І. Ленін у Разліве. 1917 г.

**Раздзел сёмы**

У 1886 годзе, калі Владзіміру Ільічу ішоў шаснаццаты год, на нашу шчаслівую сям'ю абрушылася першае цяжкае гора:



В. І. Ленін і І. В. Сталін. 1918 г.

12 студзеня раптоўна памёр бацька—Ілья Нікалаевіч. Александр Ільіч быў у той час у Пецербургу. Валодзя застаўся старэйшым сынам у сям'і, і ён выказаў, не гледзячы на сваю маладосць, многа ўважлівасці ў адносінах да маці, многа стараннасці дапамагчы ёй у нахлынуўшых на яе новых клопатах. Гэтай зімою я засталася даўжэй у Сімбірску, дзе смерць бацькі застала мяне ў час калядных канікул. Мне трэба было прайсці латынь для курсаў, і Валодзя, які добра ведаў яе, узяўся дапамагаць мне. Памятаю, як добра ён тлумачыў і якімі жывымі і цікавымі бывалі ў нас урокі.

У 1887 годзе, калі Валодзя быў у апошнім класе, на нашу сям'ю абрушылася цяжкае няшчасце: за ўдзел у замаху на цара Александра III быў арыштаван Александр Ільіч у Пецербургу. Владзіміру Ільічу давялося тады першаму пачуць гэтую цяжкую вестку і падрыхтаваць да яе маці.

Справа Александра Ільіча скончылася сапраўды вельмі сур'ёзна: ён быў прызнаны адным з галоўных кіраўнікоў замаху,

прыгаворан да смяротнай кары і пакаран смерцю 8 мая 1887 года.

Начальству Сімбірскай гімназіі была абвешчана вымова за тое, што яно выпусціла з лепшай атэстацыяй і залатой медаллю такога «страшэннага злачынцу».

Думалі, што нельга даць залатой медалі і яго брату Владзіміру Ільічу, але поспехі апошняга за ўсе восем год навучання ў гімназіі былі такімі выдатнымі, адказы яго на выпускным экзамене такімі бліскучымі, што нельга было пазбавіць яго, як і сястру яго Ольгу, залатой медалі. Ён атрымаў гэтую медаль і паступіў у Казанскі універсітэт, на юрыдычны факультэт. Маці з астатнімі дзецьмі, прадаўшы ў Сімбірску дом і лішнюю маёмасць, пераехала таксама ў Казань. Але той гнёт, які і без таго цяжка ляжаў на студэнцтве ў васьмідзесятых гадах мінулага стагоддзя, яшчэ больш узмацніўся пасля замаху 1 сакавіка 1887 года, удзельнікамі якога былі студэнты. «Інспектарамі студэнтаў» прызначаліся сапраўдныя паліцэйскія шпікі, былі закрыты ўсе самыя бязвінныя студэнцкія таварыствы, распушчаны ўсе арганізацыі, шмат хто арыштаваны і выключаны. Студэнты пачалі пратэставаць ва ўсіх універсітэтах. Адбыліся так званыя студэнцкія беспарадкі і ў Казанскім універсітэце. Владзімір Ільіч таксама прыняў удзел у недазволеным сходцы і быў, у ліку іншых, выключан з універсітэта і выслан з Казані ў вёску Кокушкіна.

Гэтым выключэннем скончыліся для яго вучнёўскія годы. Дзверы вышэйшай школы былі зачынены для яго.

У хадайніцтвах аб новым паступленні ва універсітэт яму было адмоўлена галоўным чынам з-за таго, што ён быў братам Александра Ільіча.

Такім чынам, школьная вучоба закончылася для Владзіміра Ільіча ў семнаццаць год. Але ён быў настолькі свядомым, што здолеў самастойна, без усякай пабочнай дапамогі, закончыць сваю адукацыю.

Ён закончыў афіцыяльную адукацыю, здаўшы, калі яму было, нарэшце, дадзена гэта права, выпускны экзамен па юрыдычнаму факультэту, прычым здаў яго ў адзін год са сваім выпускам, як быццам не быў выключан з універсітэта.

Памятаю, шмат хто здзіўляўся тады, што ён нават не страціў года з-за ўсёй гэтай калатні, г. зн. што ў сапраўднасці падрыхтаваўся па ўсіх навуках універсітэцкага курса не ў чатыры, як усе, а ў якія-небудзь два годы.

Атрыманы ім дыплом аб сканчэнні універсітэта даваў яму прафесію (ён запісаўся памочнікам прысяжнага паверанага), а значыць магчымасць зарабляць сабе хлеб, пра што трэба было думаць, бо ўся сям'я жыла толькі на пенсію маці ды на тое, што пражывалася пакрыху з пакінутага бацькам.

Але ён закончыў таксама за гэтыя годы жыцця ў правінцыі,—спачатку ў Казані, а потым у Самары,—сваю адукацыю рэвалюцыянера. Ён знайшоў канчатковы свой шлях у рэвалюцыйным марксізме, у ідэі барацьбы рабочага класа. Прызвычаены вывучаць усё грунтоўна і дасканала, ён вывучыў так і марксізм. Ён вывучыў усе творы Маркса і Энгельса,—шмат якіх тады ў рускім перакладзе не было,—і ён чытаў іх па-французску ці па-нямецку. Ён дзяліўся па сваёй прывычцы набытымі ведамі з гуртком моладзі, якая не магла чытаць на замежных мовах. Ён пачаў вывучаць рускую рэчаіснасць, каб высветліць, наколькі прыстасавальны быў да яе шлях Маркса. І, высветліўшы гэта зусім дасканала, ён цвёрда пайшоў па гэтаму шляху, павёў на чале створанай ім камуністычнай партыі за сабой рабочы клас Расіі—і прывёў яго да перамогі.



Вёска Кокушкіна Казанскай губерні—месца першай ссылкі В. І. Леніна.



# КОМСАМОЛКА ГАНЭЛЭ

*Л. Талалай*

Між кустоў ля доміка
Волга ў даль плыве.
Комсамолка Ганэлэ
Ў доміку жыве.

На пароме конніца,
Гоман над ракой.
Вышлі ўсёй ваколіцай
На рашучы бой.

Вораг люты тоіцца
У густым бары.
Ганэлэ спяшаецца
К сябрам на зары.

Не мінула Ганэлэ
Афіцэрскіх лап.
Пацягнулі Ганэлэ
У варожы штаб.

А ў густым сасонніку
Ціхі перазвон.
—Дзе Сямён Будзённы, дзе?
Раскажы, дзе ён?

Не сказала Ганэлэ,
Ганэлэ маўчыць...
Галава кудравая
Ў мураве ляжыць.

Пра што, вецер, песеньку
Ты пачаў сваю?
Плачу я пра Ганэлэ,
Родную маю.

Па-над Волгай домікі,
Пеніцца рака.
Дзе яна кудравая
Дочка рыбака?
Дзе яна харошая,
Дзе яна?!

**З яўрэйскай мовы пераклаў Антон Бялевіч.**



# Кім быць?

Ю. ГЕРМАН

Рысункі А. ВОЛКАВА

Мяне завуць Віця. Я яшчэ невялікі. Але і не такі ўжо маленькі. Я сярэдні. Мне сем год, восьмы—пара ўжо ў школу ісці, а я дагэтуль яшчэ не ведаю, кім мне быць.

У мяне ёсць дзядзя Міша. Ён чырвонафлоцец. Плавае ён на вялікім караблі з пушкамі. Карабль такі вялікі, што на ім нават ёсць свой самалёт.

Вось плыў аднаго разу дзядзя Міша на сваім караблі па мору і глядзеў у трубу. Раптам бачыць: далёка-далёка перакулілася шлюпка і людзі тонуць. Дзядзя Міша спусціў з карабля баркас, сеў у яго з сваімі чырвонафлотцамі і выратаваў усіх утапаючых.



* * *

Ёсць у мяне дзядзя Валодзя. Ён выдатны танкіст.



Яго танк можа праз што хочаш пералезці. А калі пападзецца вада, то танк дзядзі Валодзі можа нават пераплысці праз ваду. І на гэтым танку, як на караблі, ёсць пушка і кулямёты.

Вось аднаго разу накідалі бярвенняў, дрэў, камення, возера зрабілі, скалу, яму... Дзядзя Валодзя сеў у свой танк і перамог усе гэтыя перашкоды. Праз бярвенні перабраўся, дрэвы зламаў, каменне раскідаў, праз возера пераплыў, праз скалу пералез і з ямы выбраўся. Потым пад'ехаў да самага народнага камісара, спыніў свой танк і адрапартаваў:

— Ваша заданне выканана, таварыш народны камісар.

І народны камісар пацiснуў дзядзі Валодзі руку.

Хацелася-б мне быць такім танкістам, як дзядзя Валодзя.

* * *

У мяне ёсць два дзядулі. Адзін дзядуля мамін папа, а другі дзядуля папін папа. Аднаго дзядулю завуць дзядуля Сцяпан, а другога дзядулю завуць дзядуля Трафім. Той дзядуля, які мамін папа,—дзядуля Трафім, а той дзядуля, які папін папа,—дзядуля Сцяпан.



Вось як!

Ва ўсіх хлопчыкаў і дзяўчынак дзядулі звычайна бываюць вельмі старыя. А мае дзядулі даволі маладыя. І аднаго разу заспрачаліся мае маладыя дзядулі.

— Кавалерыя самая галоўная рэч,—сказаў дзядуля Сцяпан.— Ты, Трошa, не разумееш. Вельмі сорамна.

— Не, медыцына самая галоўная рэч,—сказаў дзядуля Трафім.

— Не, кавалерыя,—сказаў дзядуля Сцяпан.

— Не, медыцына,—сказаў дзядуля Трафім.

— Чаму-ж медыцына? Медыцына зусім не вайсковая рэч. Вось ты слухай, які ў мяне быў выпадак у кавалерыі.

І дзядуля Сцяпан расказаў, як ён быў кавалерыстам і як белыя разведчыкі ранілі аднаго дзядулінага таварыша куляй у руку. Ранілі і ўзялі ў палон. Дзядуля чакаў, чакаў таварыша, потым зазлаваў і паехаў шукаць. І бачыць—вязуць белыя разведчыкі раненага дзядулінага таварыша. Дзядуля як крыкне:

— Эскадрон, за мной!

Белыя падумалі, што дзядуля не адзін, і ўцяклі, а дзядуля, вызваліўшы раненага таварыша з палону, адвёз яго да доктара.

— І што зрабіў доктар?—спытаў дзядуля Трафім.

— Вядома, вылечыў майго раненага таварыша,—сказаў дзядуля Сцяпан.

— Ха-ха-ха!—зарагатаў дзядуля Трафім.—Значыць, ты прызнаеш, што медыцына важная рэч у вайне. Не было-б медыцыны і не вылечыў-бы доктар твайго раненага таварыша. А доктар вылечыў, і зараз твой таварыш стаў камандзірам палка.

— Але каб я не быў кавалерыстам,—сказаў дзядуля Сцяпан,—то ніхто-б не мог вызваліць з палону майго таварыша. І тады ён усё роўна не мог-бы быць камандзірам палка...

І мае маладыя дзядулі зноў заспрачаліся спачатку.

Вядома, кавалерыстам вельмі цікава быць.

Але і доктарам таксама нічога сабе.

* * *

Ёсць у мяне дзядзя Саша. Ён пагранічнік.

Яго нашы ворагі вельмі баяцца.

Ён выдатны пагранічнік. Аднаго разу ён надзеў поверх шыняля такі халат, асаблівы, падобны па колеру на колер лесу, і сядзіць сабе з вінтоўкай у лесе, чакае.

Раптам з-за граніцы ідзе вораг. З рэвальверам. І не бачыць дзядзю Сашу, таму што дзядзя Саша зусім падобны на лес.



А калі вораг падышоў так блізка, што ўжо не мог уцячы, дзядзя Саша ўстаў, нацэліўся ў яго з вінтоўкі і загадаў:

— Стой!

Бачыць вораг, што бегчы некуды,—адразу спыніўся.

Паспрабаваў-бы ён не спыніцца...

Ці не паступіць мне ў пагранічнікі, калі я крыху падрасту?

---

Аднаго разу дзядуля Трафім расказаў мне цікавы выпадак.

— У медыцыне ўсякае бывае,—пачаў ён сваё апавяданне,—такое бывае, што на медыцыну зусім і не падобна. Я-ж сам, можаш сабе ўявіць, не доктар, як усе думаюць, а памочнік доктара, фельчар. Але гэта нічога не значыць для нашага апавядання. Вось аднаго разу я лячыў, лячыў сваіх раненых, а белае войска ўсё бліжэй і бліжэй на нас насоўвалася. Я думаю, што-ж рабіць? Раненых-жа шкада. Ляжаць. Стогнуць. Вось і кажу: «Дарагія таварышы раненыя, давайце збярэмся і дадзім адпор». Я кажу: «Тут нават пушка ёсць забытая, можа хто ўмее з пушкі страляць?» Адзін ранены адказвае:

— Я ўмею, толькі ў мяне рукі папсаваныя.

Я адказваю:

— Гэта нічога, што рукі папсаваныя. Ты нам толькі раскажы, як страляць, зрабіць стрэл—мы самі зробім. А ты павучы.

Ранены кажа:

— Добра.

Вось усе хадзячыя раненыя сабраліся і выйшлі на двор. Пасталі вакол пушкі. Адзін на дах узлез і адтуль камандуе:

— Прыцэльвацца так патрэбна і так... Па белых разбойніках агонь!

Ну і стрэлілі. І раз, і другі, і трэці. Белыя падумалі—артылерыя!—і давай уцякаць. А я ўсіх сваіх раненых сабраў, сказаў ім сваё медыцынскае спасіба і павёў зноў лячыцца.

Вось якая штука медыцына...

* * *

Мой папа лётчык.

Калі я быў зусім маленькім, вельмі далёка захварэла адна дзяўчынка. І абавязкова яе трэба было прывезці ў больніцу ў горад.

І найхутчэй, таму што дзяўчынка была моцна хворая.

Вось папа сеў у свой самалёт і прывёз дзяўчынку ў горад. Дзяўчынку, вядома,



вылечылі. А папа паранейшаму лятае на сваім самалёце хуткай дапамогі.

Мабыць, і я буду лётчыкам.

* * *

Вось на Першае Мая ўсе прышлі да нас чай піць. І я сяджу чай п'ю.

Дзядзя Міша кажа:

— Будзь, Віця, чырвонафлотцам, як я, вельмі цікава. Караблі, мора, пушкі—усё ў нас ёсць.

Дзядзя Валодзя кажа:

— Нічога няма сільней за танк. Ні вада танку не страшна, ні яма, ні лес, ні куля. Будзь, пляменнік, танкістам.

Дзядзя Саша кажа:

— Трэба табе, Віця, быць пагранічнікам.

А папа кажа:

— Не ўжо, ён у мяне лётчыкам будзе.

А дзядулі кажуць:

— Кавалерыстам!

— Медыкам!

— Артылерыстам!

І яны заспрачаліся.

Кім-жа мне быць? Парайце, калі ласка...

Я да гэтага часу яшчэ не прыдумаў.





# Пра блазнівага катка

Алесь Жаўрук
і Андрэй Ушакоў

Рысункі М. СВЯЦКАГА

У доміку маленькім
пад крутой гарой
я жыву з любімай
бабкаю сваёй.

У мяне ёсць жвавы
шэранькі каток.
Жэўжык, непаседа,
вечна скок ды скок.

Кожны дзень кацёнку,
як іду ў дзетсад,
слухацца бабульку
я даю загад.

Вечна абяцае
слухацца каток,
а пасля ў бабулькі
схопіць з рук клубок.

І давай па хаце
з ім скакаць блазень,—
бедная бабулька
ловіць цэлы дзень.

Ўвечары з дзетсада
я прыду сама—
знік клубок бабулькін.
мячыка няма.

Я крычу са злосці,
а каток: „мяў-мяў,
я клубка не бачыў,
мячыка не браў“.





Хвосцікам паводзіць,
гнецца у дугу,
трэцца шэрым бокам
аб маю нагу.

Я ад цёці ўчора
ўвечары ішла,
на сцяжынцы ў садзе
вожыка знайшла.

Як мяне убачыў
хітранькі звярок,—
ўраз схаваў ён рыльца,
звіўся у клубок.

Вострыя іголкі,
быццам-бы штыкі,
натапырыў спрытна
ў розныя бакі.

— Ну-ка, хто ахвочы—
падыходзь герой,—
нас, браток, не возьмеш
голаю рукой.

Я яго хусцінкай
ціханька ўзяла.
У дом к сабе прынесла,
спаць сама пайшла.

Раніцой прачнуўся
мой блазень-каток,
бачыць, што такое—
мячык ці клубок.

Бачыць і не верыць
ён сваім вачам:
як жывы, за ложак
мячык прыгнуў сам

і хутчэй схаваўся
ад катка ў кутку.
Вось пацеха будзе
нашаму катку!

Зараз яго лапкай
ён адкіне ўбок.
Ой-жа, як балюча
Колецца клубок!

— Вось табе за гэта!
Кінуўся ён зноў,
І яшчэ балючай
лапы накалоў.

Запішчэў, заенчыў
жаласна: „мяў-мяў,
гэткіх я ніколі
цудаў не спаткаў,

каб клубок ці мячык
мог калоцца так".
яго панюхаць
хоча мой бядак.

Не паспела скочыць
з ложку я далоў,
як блазень цікаўны
пыску накалоў.

І цяпер сядзіць ён,
па сваёй віне,
ўвесь забінтаваны,
смірны на акне.

А на панадворку
сёння за акном





весела і шумна,
хораша кругом.

Там гурбой кральчаты
дражняць індыка,
там знайшлі цыпляты
майскага жука.

Вераб'ям прывольна
па двары гуляць—
некаму сягоння
вераб'ёў ганяць.

Бусел стаў паважна
на адной назе,
костку Жук ля будкі
смачную грызе.

І прымаць ля лужы,
быццам ля ракі,
сонечныя ванны
ляглі парсюкі.

Толькі ён астаўлен,
па сваёй віне,
ўвесь забінтаваны
ў хаце на акне.

Перад ім лякарствы
горкія стаяць,
ў дзень па чайнай лыжцы
трэба іх прымаць.

Тут каток ад гора
плакаць захацеў,
ў гэты час на дровы
певень узляцеў.

Закрычаў што сілы
ён: „Ку-ка-рэ-ку,
так табе і трэба
збродзе-блазнюку!"





# Абраша Міхельсон

І. ГУРСКІ

Рысункі І. МІЛЬЧЫНА

Рахіль Міхельсон плакала «з прычыны і без прычыны». Так людзі гаварылі. Нарадзіўшы адзінаццатага Абрашу, Рахіль залілася слязмі. Часта даставалася шырокаплечаму, з доўгімі непрыгожымі рукамі, бульбяным носам і добрымі вачыма, Моўшу.

— Ну, што я казала! Сам трынаццаты! Чым будзем карміць?

— На лёк і бульбу, як-небудзь, агораю. Чаго яшчэ трэба балаголе?.. Хлеба?.. А ў Мікіты і Янкі ён ёсць?.. Другі месяц мох дзяруць...

— Чаму гэта, Моўша, ты маўчыш, за што на цябе ураднік пратакол склаў? Не звярнуў з дарогі? Не пакланіўся?

— Уй, Рахіль, глянеш сваімі глыбокімі вачыма і ўсё ведаеш.

— Ну-у?—дапытліва глядзела Рахіль.— Ты заўсёды мне пра вочы, калі...

— Едзем,—перабіў Моўша,—сустрэліся. Як на добры лад, то хто ўлёгцы, той зварочвае. Але Свінтусевічу закон не пісан. Хацеў аб'ехаць ліха. Я за лейчыну, а буланы ні з месца. Но-о! А ён вухам не вядзе. А ураднік стаіць як баран перад новымі варотамі і вокам не маргне. Што мне рабіць? Пытаюся: «Пане ураднік! Ці высока сонца?»

— Хіба не бачыш,—крычыць,—морда! Хто перад табой?

— Бачу,—кажу—свіны лыч...

— А што далей?

— Перш ён мяне скалануў, потым я яго патрос. Мікіта з Янкам падскочылі. Давай мы яго ў тры пугі малаціць. Потым ён выхапіў наган, а я схапіў пугаўё. Ну і завязалася бойка. Ён склаў пратакол. А за пратаколам загад. Ну, а з загадам, Моўша, з усім сваім кагалам у дарозе. Куды ехаць, Рахіль?..

У загадзе гаварылася: «Прапануецца Моўшу Іцкавічу Міхельсону ў аднадзённы тэрмін выбрацца з вёскі Махаеды». А ў Моўшы, акрамя жонкі Рахілі, як бобу дзяцей, сямірублёвага ў добры кірмаш каня і поўасміны паросшай бульбы, нічога не было.

Цэлы дзень ліўнем ліў дождж. Моўшу ўсё не верылася, што прыдзецца выбірацца з хаты. Пад вечар з'явіўся стражнік Апрычнікаў, высокі, худы, з рыжымі доўгімі вусамі і з «селядцом» (як звалі дзеці шаблю) на баку.

Стражнік выкідаў на двор Моўшыны клункі. Моўша, увагнуўшыся, пайшоў запрагаць каня. Падышлі Янка з Мікітам, сабраліся махаедаўцы, хто з хлебам, хто з бульбай, а хто з добрым словам.

Заскрыпелі колы, залямантавалі бабы, забрахалі сабакі. Пайшоў каля воза Моўша з апушчанаю галавою, пайшоў, не ведаючы куды, зачым. Дзеці, як кураняты хаваюцца пад крыло квактухі, туліліся да маці.

Махаедаўцы правялі Міхельсона за вёску, два разы дапамаглі Моўшаваму каню выцягнуць з ліпкай гразі калёсы.

Падуў свежы паўночна-заходні вецер. Дзеці абляпілі Рахіль, як мухі мёд. Яна плакала. Плакалі бярозы, сведкі чалавечага гора, нізка кланяючыся дадолу.

Развітаўшыся з Мікіціхай, якая, зняўшы паношаную шарсцяную хустку, ускінула яе на малое Моўшава дзіця, Рахіль прагаварыла:

— Дзякую, людцы добрыя, за спагаду. Ніколі не забуду. Бывайце, родныя сястрычкі!



На дарозе Моўшу дагналі начлежнікі з вёскі Караеды. Распытвалі, куды ён едзе.

Начлежнікі ўгаварылі Моўшу пераначаваць каля кастра. Пелі песні праз слёзы, з слязамі на вачах смяяліся, калі слухалі Моўшу, як ён пугаўём лупцаваў царскага дзяржыморду Свінтусевіча.

— Што вам, з горам папалам можаце жыць,—разважаючы гаварыў Моўша,—а яўрэю беднаму зусім няма месца пад сонцам... Вы людзі...

— Хіба мы людзі, мы—палешукі...—пярэчыў цыбаты, як бусел, стары дзед, з рыжаю, як памяло, барадою.—Але нічога, будзе і на нашай вуліцы кірмаш...

Плакала Рахіль, седзячы каля дуба з дуплом, укрываючы малога Абрашу хусткай. Дзеці даўно ўжо спалі на падасланым моўшавым паліто, на якім з-за латак жывога месца не відаць было.

На рассвеце ўсе паснулі.

Патрэскваў касцёр, пахрапвалі, пасвістваючы насамі, стомленыя людзі.

Толькі адзін Моўша ўсю ноч не спаў.

* * *

Галасіла Рахіль, праводзячы ў апошні шлях без пары, без часу пайшоўшага ў магілу Моўшу Іцкавіча Міхельсона—кармільца адзінаццаці дзяцей і яе дванаццатай.

Жыла Рахіль Міхельсон на краю мястэчка Броды, недалёка ад могілак. Згорбленая яе хацінка, як і само жыццё Рахілі, уехала на поўсажня ў зямлю.

Рахіль Міхельсон тое лета, калі памёр Моўша, на сваіх руках вынесла на могілкі траіх хварэўшых на сухоты дзяцей.

Абраша, калі яны прадалі скуру з буланага за тры рублі, са старэйшым братам Моткам пайшлі на свой хлеб. Мотку было восем год, а Абрашу—шэсць. Яны хадзілі па вёсках шыць кажухі, апляталі гаршкі, не цураліся ніякай работы. Надакучыла такое жыццё. Абраша рашыў ва што-б то ні стала быць настаўнікам.

Хедэр, талмуд, пстрычкі ў лоб, лінейка па руцэ абрыдлі Абрашу. Ён сам пачаў вучыцца. Праз некалькі год экстэрнам здаў на настаўніка.

Прышоў Кастрычнік. Махаедаўцы запрасілі Абрама Моўшавіча Міхельсон у сваю школу. Гэтаму многа дапамагла старая Рахіль, якую цягнула ў вёску.

— А ці памятаеш, Мікіціха, як ты, зняўшы з сваіх плячэй, ускінула хустку на Абрашу...

— Эт, ці варта ўспамінаць... Калі яно тое было...

— Варта для тых, хто гэтага не ведае...

На краю былой вёскі Махаеды, куды паступова пераносіўся цэнтр калгаса імя Ільіча, вырасла прыгожая сталінская школа. У ёй працаваў любімец вясковай дзетвары і сялян Абрам Моўшавіч Міхельсон.

— Ну і што ты знаходзіш цікавага ў сваёй прафесіі?—аднойчы запыталася маці.

— Ой, не кажы, мама,—папраўляючы акуляры, разгортваючы газету, гаварыў Абрам Моўшавіч.—Я так шчаслівы. Дзевяць маіх былых вучняў ходзяць з ордэнамі. А колькі яшчэ іх будзе! Што!! Глядзі, мама, і мяне ўзнагародзілі! Вось гэтага не чакаў.

На вачах у маці паказаліся слёзы.

— Ты, мама, плачаш?

— Як-жа мне не плакаць? Хіба хто калі думаў, што Абраша Міхельсон, сын балагола, будзе насіць ордэн на грудзях. Раней толькі насілі ордэны Свінтусевічы ды Апрычнікавы.

І яшчэ адзін раз сабраліся махаедаўцы праводзіць старую Рахіль з Абрашай. На



гэты раз яны праводзілі іх у Маскву, дзе Абраша Міхельсон павінен атрымаць ордэн Леніна.

Вясна. Цвілі сады. Спявалі птушкі. Дзынкалі пчолы. Калгасны вараны, запрэжаны ў выязную брычку з уквечанаю дугою, біў капытамі зямлю.

Зноў плакала Рахіль з Мікіціхай, але на гэты раз ад шчасця і радасці.

Не паспелі добра ўсесціся, як калгасны скакун рвануў, выпрастаўся, пакідаючы пыл слупом.

Кланяліся сустракаўшыяся людзі, прыветліва махалі шапкамі, абсыпаючы вясеннімі кветкамі, кланяліся зялёныя бярозы, бары-гушчары, услаўляючы сына роднай зямлі—Абрашу Міхельсона.





# ДРЭЙФ „Г. СЕДОВА“

Многія перадавыя вучоныя не раз імкнуліся пранікнуць у цэнтральную частку Паўночнага Ледавітага акіяна, каб даведацца, што робіцца ў гэтай частцы зямнога шара. Амерыканцу Піры ўдалося пранікнуць аж на Паўночны полюс. Над полюсам праляцелі Берд, Нобіле, Амундсен. Але ўсё-ж ніхто з іх не змог даследаваць гэтую частку акіяна. Усе яны мелі ў сваім распараджэнні вельмі нізкую тэхніку, а таксама мала сродкаў, каб гэтыя экспедыцыі далі каштоўныя вынікі. Капіталістычныя дзяржавы не былі зацікаўлены ў вывучэнні Поўначы.



Толькі Нансену ў час яго славутага дрэйфа на параходзе „Фрам“ у 1893—1896 г. удалося сабраць вялікі і надзвычайна каштоўны матэрыял, які даў пачатак глыбокаму вывучэнню Ледавітага акіяна.

Савецкая навука, якая апіраецца на вялікую магутнасць усёй нашай краіны, змагла поўнасцю вырашыць задачу вывучэння цэнтральнай часці акіяна.

Усім вядомая станцыя „Паўночны полюс“ на чале з тав. Папаніным сабрала вялікі матэрыял па вывучэнню раёна паміж полюсам і Грэнландскім морам.



Дрэйф ледакольнага парахода „Седов“ захапіў другую обласць Паўночнага Ледавітага акіяна—ад мора Лапцёвых да Грэнландскага мора.

23 кастрычніка 1937 года „Седов“ разам з параходам „Садко“ і „Малыгин“ сталі на зімоўку ў цяжкіх ільдах.

28 жніўня 1938 года ледакол „Ермак“ падышоў да гэтых параходаў, каб вырваць іх з ледзянога палона. Пасля ўпартай і працяглай барацьбы з ільдамі „Ермаку“ ўдалося вырваць „Садко“ і „Малыгина“. Спробы вызваліць „Седова“ закончыліся безрэзультатна. Было прынята рашэнне—пакінуць „Седова“ ў дрэйфе, як рухомую навукова-даследчую станцыю. Каманда „Седова“ была адабрана з лепшых маракоў. На борт карабля перагружаны прадукты, спецыяльнае абмундзіраванне і навуковае абсталяванне.



Палярнай восенью таго-ж 1938 года была зроблена яшчэ адна спроба вывесці „Седова“ з ільдоў, але і гэтая спроба не дала вынікаў.

Каманда „Седова“ прадаўжала стойка несці вахту ў сцюдзёных прасторах Арктыкі.

Ільды неслі дрэйфуючы карабль у паўночна-заходнім напрамку ў 440 кіламетрах ад Паўночнага полюса.

Седоўцам была зроблена прапанова змяніцца, але яны аднадушна заявілі аб сваім непахісным жаданні прадаўжаць дрэйф

да канца. Урад задаволіў гэтае хадайніцтва, і карабль працягваў дрэйф.

З наступленнем лета ў Арктыцы вакол „Седова“ з'явіліся вялікія разводдзі. Пацяпленне дало магчымасць экіпажу, не перарываючы навуковых работ, заняцца прывядзеннем у парадак свайго судна. Седоўцы абнавілі страчаную ў жніўні 1938 года магчымасць кіравання караблём і правялі многа другіх работ.

Дрэйф працягваўся звыш двух год. Карабль за гэты час прайшоў каля 3 тысяч міль. Штодзённа на караблі вялася вялікая навуковая работа. Седоўцы рэгулярна вымяралі акіянскія глыбіні і бралі ўзоры грунта, дакладна вывучалі прыроду ільда. У начны час вёўся падрабязны дзённік палярных ззянняў.



Дрэйфуючы карабль, скаваны ільдамі, у лістападзе 1939 года рэзка змяніў напрамак дрэйфа і пайшоў на поўдзень.

Урад прыняў рашэнне накіраваць насустрач дрэйфуючаму караблю магутны ледакол арктычнага флота „Іосіф Сталін“ на чале з героем Савецкага Саюза тав. І. Д. Папаніным.

15 снежня 1939 года ў 10 гадзін раніцы лінейны ледакол „І. Сталін“ вышаў з Мурманска, а 13 студзеня 1940 года ў 12 гадзін 07 мінут ён падышоў да барта „Седова“.

У гэтую мінуту легендарны дрэйф карабля „Седов“ быў скончаны.



Многа цяжкасцей прышлося перанесці гераічным седоўцам за час дрэйфа. Кожнае навуковае назіранне, кожны іх шаг быў боем з суровай прыродай Арктыкі.

Ледакол „Седоў“ за час свайго дрэйфа больш чым 150 разоў падвяргаўся сцісканням ільдоў. Пры пачатку кожнага сціскання, хто мог сказаць, чым яно скончыцца? Адзінай абаронай жыцця і матэрыялаў навуковых даследванняў была арганізацыя складаў прадуктаў, адзежы і абсталявання на ільду. Але іх трэба было безупынна ахоўваць, асабліва ў зімовыя месяцы, калі сцісканне ільдоў найбольш моцнае. Колькі разоў горы ільду насоўваліся на склады, пагражаючы загубіць іх.

Асабліва цяжкай была работа па вымярэнню марскіх глыбінь. На караблі не было троса дастатковай даўжыні. Седоўцам прыходзілася самім загатаўляць яго даўжынёю ў 5 кілометраў. Яны распляталі тоўстыя драцяныя канаты і з асобных тонкіх дроцікаў звівалі даўгія тросы. Працаваць прыходзілася пры 35-градусных марозах, пры вятрах і завірухах.



Суровая прырода Арктыкі не шкадавала седоўцаў.

Гераічны дрэйф скончан. Уважліва і клапатліва сачыў таварыш Сталін і ўся наша краіна за героямі Арктыкі.

Няхай ім віхуры, ільды пагражалі,  
Іх сагрэла родная зямля,  
І героі заўжды перамагалі,  
І свяцілі ім зоркі Крэмля.



## РЭБЯТЫ!

*Прыдумайце апавяданні на тэму гэтых малюнкаў і прышліце нам у рэдакцыю; лепшыя з іх мы надрукуем у журнале.*





## Чаму чалавек дрыжыць ад холаду?

Калі чалавеку становіцца холадна, ён, каб сагрэцца, пачынае размахваць рукамі або падскакваць на месцы. Карацей кажучы, ён прыводзіць у рух свае мышцы, якія ў выніку работы даюць цяпло.

Чалавек, які сагрэўся такім спосабам, не дрыжыць ад холаду.

Калі чалавечае цела пачынае мерзнуць, а сам чалавек нічога не робіць для таго, каб сагрэцца, то мышцы, абараняючыся ад холаду, самі пачынаюць рухацца. Гэты рух мышц і называецца дрыжаннем ад холаду.

## Кошкі і кацяняты

З рысунка вы бачыце, што чатыры кошкі і трое кацянят важаць 15 кілограмаў, а тры кошкі і чацвёра кацянят важаць 13 кілограмаў. Колькі важыць кожная кошка і кожнае кацянё паасобку?

Дапускаецца, што ўсе дарослыя кошкі важаць аднолькава; кацяняты таксама маюць аднолькавую вагу. Пастарайцеся гэту задачу рашыць вусна.



Радактар А. БЯРОЗКІН Афармленне М. СВЯЦКАГА Адрас радакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна, Мінск. 20.000 экз. Зак. № 2082. 2½ друк. арк. Уп. Галоўліта № 101

